# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1713) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 12 САКАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.


## У гэтых карцінах ёсць жыццё. „Ведаю, што хочуць сказаць сосны...“



Нінель Шчасная на сваёй выстаўцы ў Беластоку.

„У гэтых карцінах ёсць жыццё. Ведаю, што хочуць сказаць сосны...“ — гэтыя словы запісаны шчырай вучнёўскай рукой у кнізе водгукаў аб выстаўцы Нінель Шчаснай, што адбылася ў студзені ў гмаху Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку. Ці можа быць большая сатысфакцыя для творцы, чым людское прызнанне?..

„У мастака бываюць два этапы радасці, — гаворыць аўтарка. — Першы — гэта калі ён творыць, калі нярвз месяцамі цэлымі, а мо і гадамі вынашвае сваю тэму. А часта ж здараецца так, што пачынае маляваць карціну і адкладае, але ж урэшце наступае той момант, калі думкі яго перанесены на палатно. Другі этап гэтай радасці — гэта тады, калі ты трапіў да сэрца чалавека і хтосьці хоча мець тваю карціну назаўсёды, быць з ёю штодзень, мець яе толькі для сябе.“

Пра гэту вядомую беларускую мастачку мы на старонках „Нівы“ не так даўно змясцілі даволі вялікі матэрыял. Хацелася б, аднак, крыху напомніць некаторыя факты з яе біяграфіі. Мастачка нарадзілася ў Полацку 25 кастрычніка 1933 года. Першую мастацкую адукацыю атрымала ў Мінску. Спачатку гэта былі лекцыі ў мастака-педагога Сяргея Каткова, і менавіта яго Н. Шчасная ўспамінае асабліва сардэчна. Быў ён вельмі добры ў адносінах да дзяцей, умеў заўважыць таго, хто мае здольнасці, дапамагчы ў цяжкіх хвілінах і накіраваць яго на ўласцівую дарогу. Сярод былых яго вучняў шмат вядомых сёння мастакоў.

У Мінску Н. Шчасная скончыла Мастацкую школу, пасля якой як выдатніца паступіла ў Інстытут жывапісу, разьбы і архітэктуры імя Ільі Рэпіна ў Ленінградзе.

Пасля інстытута нейкі час мастачка працавала ў сярэдняй Азіі, у Душанбе. Менавіта там былі створаны яе першыя прафесіянальныя працы.

У 1966 годзе Н. Шчасная вяртаецца на родную Беларусь, і ад гэтага часу фактычна пачынаецца яе творчая біяграфія. Хаця на першым плане для мастачкі заўсёды заставаўся жы-

(Працяг на стар. 6)

## Пра нашых пісалі...

Не так вельмі даўно беларуская тэматыка на старонках польскіх газет ды часопісаў успрымалася даволі экзатычнаю, што кепска сведчыла пра нашу прысутнасць у шырэйшым свеце. Цяпер жа пачынае яна быць звычайнай, амаль штодзённай.

„Gazeta Współczesna“ ад восьмага лютага змясціла артыкул „Polska, Białoruś“, які пачынаецца ідэяй утварэння Таварыства польска-беларускай дружбы. Займалася б яно не толькі папулярызацыяй Беларусі сярод палякаў; трэба паважнага дыялогу паміж суседнімі народамі. Бо: у газетах поўна гэтай дружбы, а на самай справе яе мала або і зусім няма...

Са спазненнем дайшлі да нашых рук нумары кракаўскай газеты „Dziennik Polski“ ад 23 жніўня і 25 лістапада. Асабліва вартасны нам той першы, з публікацыяй Багдана Ваштыля „Motyw białoruski“. Па праўдзе кажучы, цэлы рэпартаж пра нашыя тут няшчасці. — Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў сваіх старых навыках болей дбае пра папяровую паказуху, чымсьці пра сапраўдную дзейнасць. Псіхалогія наменклатуры. Самі ж беларусы — у правінцыі — жывуць паняццямі дзевятнаццатага стагоддзя. Як тыя амерыканскія індзейцы, калі выходзяць у сучаснае жыццё, дык, пераважна, страчваюць уласны нацыянальны твар. Некаторыя з іх знаходзяцца глыбей у даўніне („...lepiej nazywać ich wszystkich Rusinami“). Беларуская свядомасць, як знак дваццатага стагоддзя, усё яшчэ перад імі (у сэнсе грамадскіх маштабаў). Трагіка-камічнасць беларускіх людзей у тым, што яны, бы дзеці якія: сёння беларус з яго, заўтра — украінец, паслязаўтра — паляк або літовец, або рускі... Хто дае больш, таму і служыць. Адкуль бярэцца такі маральны ўпадак? Аўтар мацней не задумваецца. Дагаварыць за яго?

А ў лістападаўскім тым выданні Чэслаў Т. Нямчынскі змясціў старасвецкі тэкст „Zapach pogranicza“. Бы нейкі сентыментальны шляхціц, усюды бачыць пачцівікаў. Нібы і звяртае ўвагу на канфлікты, але робіць гэта так, што падобныя яны на гульню або жарты. Кляйміць казённую дружбу народаў, ейны бюракратычны ліміт, і — адначасна — сам не выходзіць далей па-за ўгаворы жыць у згодзе ды любові. Забывае, што

(Працяг на стар. 2)

 Этнаграфічнае акенца 



Музей беластоцкай вёскі. Хлеў з павеццю на сена. Фота М. Гайдука.

# ГАДАВАЛА ПТУШКА ДЗЕЦІ...

Глядзела я на бабульку і была ўпэўнена, што ёй год дзевяноста, а можа і сто. Твар у маршчынах, валасы рэдкія і сівыя, як у голуба, рукі дрыжачыя, ледзь ногі цягае...

— Колькі вам год, бабуся? — спытала я.

— Семдзесят, — адказала, уздыхнуўшы, старушка. — Мая дарагая, лёс мой паганы, то і выглядаю дрэнна, жыццё такое цяжкое было, што і ўспамінаць не хочацца...

— Нарадзілася я ў беднай сялянскай сям'і. Было нас дзесяцёра дзяцей. Я была наймалодшая. І цяпер толькі я адна пакутую на гэтым свеце...

Як толькі скончыла я пяць гадоў, памерла мама, а праз тры гады — бацька. Апекавалася мною найстарэйшая сястра. Калі я скончыла дзесяць гадоў, аддалі мяне на службу да багатага дзядзькі, пасвіць кароў. Есці давалі няшмат, а пяць кароў і быка трэба было пасвіць ад раніцы да змяркання, сачыць, бо гаспадар набіў бы. У 17 гадоў пайшла я служыць да багацея ў суседнюю вёску. Быў у яго парабак. Работы было многа, ад вясны да вясны рабілі мы найцяжэйшую. Гаспадар быў з нас задаволены, не адсылаў нас на Каляду да іншага гаспадара.

Цяжка было. Гаспадар і яго сям'я спяць, а мы пазней усіх ляглі і раней уставалі. Варылі свінням бульбу, даілі кароў, зімой пілавалі і рубалі дровы. Летам, вясной ды восенню рабілі ўсё. Гаспадары таксама працавалі, але мы з парабкам ажно праз сілу ўсё рвалі. Найцяжэй было перад Калядамі. Трэба ж было на цэлы год натаўчы круп, кудзі, намалоць мукі на хлеб, пірагі, і локшын нарабіць, а апрача таго ўсё памыць і хату прыбраць. Ой, не было калі прысесці.

Перад самай вайной мы з Мішам (так зваўся парабак) звянчаліся. Гаспадар, калі даведаўся, што хочам узяць шлюб, даў нам грошы і сказаў: „У мяне не фальварак, вашых дзяцей не хачу бачыць на вочы". Грошай хапіла на боты для мужа і касцюм і мне на шлюбную сукенку. За рэшту зрабілі скромнае вяселле ў сястрыной хаце.

Не было нам месца ў вёсцы. Пайшлі жыць у Гайнаўку. Міша працаваў у лесе, а я хадзіла на вёску, наймалася да багатых гаспадароў жаць жыта, гартаць бульбу, рваць лён. За цэлы дзень работы рукі пухлі. Жылі мы ў адной адзінокай бабулькі. Пасля яе смерці хатка нам засталася.

Калі пачалася вайна, яшчэ цяжэй было. Шлюб наш быў у студзені 1940 года. Гаспадыня памерла ў лютым 41 г., а на пачатку чэрвеня я нарадзіла першага сына. Як цяжка было ў часы акупацыі, гаварыць не трэба. Дзякаваць Богу, малако ў грудзях было. Я тады нарадзіла яшчэ двое.

Пасля вайны дзеці мае ўжо дужманыя былі. Мішаньцы пяты годзік пайшоў, Сашы трэці, а Раману — чацвёрты. Пачала я ізноў на заробкі хадзіць, дзяцей з сабою брала. Хатка валілася, і мы пабудавалі большую, таксама драўляную. Дзеці падраслі, пайшлі ў школу. Міша далей працаваў у лесе, а я летам ды восенню наймалася да працы, каб зарабіць трохі бульбы на зіму ды грошай. Да працы муж мяне не пускаў, гаварыў, што ляпей будзе, як буду дома.

Скончылі сыны пачатковую школу, ліцэй і пайшлі ва універсітэты. Я двоілася і троілася, каб больш зарабіць.

Адзін сын — адвакат на захадзе Польшчы, другі — афіцэрам у сталіцы, трэці ў канторы сядзіць.

Калі ажаніўся наймалодшы і пачаў жыць тут, мы яму пачалі будаваць мураваную хату. Памагаў і ён, але больш мы тапталіся.

Праз два гады пасля заканчэння будовы дома памёр муж. Я пачала жыць у сына. Памагала, як магла. Пакуль давала рады рабіць, то было добра, а як зняўдужала, то нявестка сказала, што я пясок дадому наношу. Сын не ўмяшаўся, і я вярнулася жыць у сваю хатку.

Дроў мне сын крыху даваў, але пенсію ўсю забіраў. Есці раз на дзень нявестка прыносіла. Я зусім апала з сіл.

Аднойчы я распаліла ў печцы і сядзела, грэлася. Зрабілася мне дрэнна, і я самлела. Добра, што ўнук прыйшоў, а то згарэла б, бо выпала палена на падлогу... Пазванілі па хуткую дапамогу. І вось ляжу ў бальніцы, цяпер мяне наведваюць і ўсё прыносяць. Але што з таго, калі сама ў рукі нічога не вазьму...

Можа, цяпер сын з нявесткаю палепшалі..? Можа, возьмуць мяне да сябе?

Аўрора




### ЧЕМАРЫЯЛ ХАТЫНЬ

З жалеза і бетону
Той помнік узняты.
Жалезабетон.
Калісьці ж былі тут драўляныя хаты.

І смутак народны
Ў сэрцы агнём аддаецца.
А вечны агонь той —
Хатынню завецца.

Гадоў ужо шмат
З пары той мінула.
І звонам хатынскім
Жывое кранула.

Кранула з-за кратаў,
Вялікіх і Малых,
З-за дваццаці шасці хатаў,
Агнём зруйнаваных...

Студні чатыры —
Зямная вадзіца!
Студні чатыры —
Каб людзям напіцца.

Агонь і вада —
Дзве істотныя рэчы.
Агонь і вада —
Каб жылі мы на свеце:
Малыя, старыя,
Бацькі і іх дзеці...

Яны ўсе згарэлі
Вясной сакавіцкай.
Дапіць не паспелі
Студзёнай вадзіцы...

Агонь паглынуў усё
Чорнаю сілай.
Вада аж шыпела
Над братняй магілай.

Сучаснік! Той помнік —
Хатынню завецца.
Як толькі пабыць там
Табе давядзецца,
Схілі галаву сваю
У нізкім паклоне.
Лёг попел Хатыні
На матчыны скроні!

**Аляксандр Маскалік,**
Баранавічы

*

Я не прыйшоў, калі яго хавалі
гарачым днём у гліну і падзол,
калі пасля за чаркай спаміналі
і бабы злосна плакалі ў падол.

Яшчэ ў дварышчы моцна пахла стружкай
і перагарам ад паяльных лямп,
а ўжо хадзілі, нос задраўшы, службы
і пасмяротны пелі дыфірамб.

Ды што яму да гэнай позняй славы, —
яму, хто пеў жывую трату дзён,
і засядаў на непадсуднай лаве,
і быў заўжды як вечны маладзён.

Спяшае час. Пчала збірае ўнёсак.
Вільготны крыж яе аэрадром...
Даўно паэт не ставіць лішніх косак,
бо лёс паставіў кропку за радком.

**Славамір Адамовіч**

# НАШ ЗЯЛЁНЫ ДОМ

Пад лозунгам аховы натуральнага асяроддзя адбылося пленарнае пасяджэнне гайнаўскага гміннага камітэта ЗСЛ (сялянская партыя) і рады ПРОНу пад канец снежня 1988 года.

Здавалася б, у нас яшчэ асяроддзе чыстае, аднак з кожным годам выглядае горш. Пара біць на трывогу, калі хочам пакінуць па сабе добрае паветра, ваду і зямлю.

Вось некалькі дадзеных са справаздачы нашых леснікоў. Беласточчына — „зялёныя лёгкія Польшчы“. А якія яны? З кожным годам чарнеюць! Штогод у нашыя рэкі і азёры выпускаецца 13 мільёнаў кубаметраў прамысловых адыходаў, якія атручваюць ваду і яе жыхароў. Дзевятнаццаць прадпрыемстваў у нашым ваяводстве пастаянна выпускаюць у паветра атрутны дым, які нішчыць лес. Даходзіць ён да нас, адчувае яго Белавежская пушча. Штогод больш дыму паяўляецца над вёскамі.

Кожнаму чалавеку на зямлі дадзены свой куточак. Куды б лёс не кінуў чалавека, ён заўсёды вяртаецца да свайго месца на зямлі, да роднага, мілага сэрцу. А куды вернемся, калі ўсё знішчым, загубім сваёй неразважнай работай, тэхнікай і несвядомасцю. Няма ўжо празрыстых крыніц з чыстай вадой. Няма азёрцаў, няма тых месцаў, дзе ў лужынах плёскалася рыба. Дзе гэтыя адвячоркі, калі жабы распачыналі свой нястомны канцэрт... Многа ўсяго ўтрачана пры нашай памяці. Селянін таксама тут не без віны, калі неразумна выкарыстоўвае штучныя ўгнаенні і іншыя хімікаты.

Ахова асяроддзя — праблема агульнанацыянальная. Таму і нашыя ўлады лічаць ахову асяроддзя адным з прыярытэтаў гаспадаркі. Усе грамадзяне мусяць гэта ўзяць да сэрца, ад школьніка да старога. Усе павінны шанаваць і ахоўваць сваё прыроднае асяроддзе, каб свой куточак на зямлі пакінуць здаровым і прыгожым на многія гады.

**Г. Мароз**




**Адам Зенчык з Мінска, Міхась Пяхота з Брэста:** Беларускія календары выдае і распаўсюджвае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. „Беларускі каляндар на 1989 г.“ выйдзе са спазненнем, у сакавіку г.г. Заказы трэба кіраваць на адрас: Zarząd Główny BTSK, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11, skr. poczt. 327.




*Стары млын у Ганёндзы. Малюнак У. Петрука.*

# Песня з „Лясной гімназіі“

Аб адным маім нечаканым, неспадзяваным знаёмстве — з Люцыянам Станкевічам — хачу расказаць вам. З кароткіх фраз нашай першай сустрэчы я зразумела, што пра гэтага чалавека хачу напісаць, і запрасіла яго ў рэдакцыю. Наша даўжэйшая сустрэча адбылася на парозе новага года.

Люцыян Станкевіч нарадзіўся на Маладзечанскай зямлі. Ад 12-га года жыцця — ён у лесе, у партызанскай брыгадзе „За радзіму“. (Бацька ў той час быў партызанскім камандзірам пад клічкай „Манай“ у Віцебскай вобласці).

Атрад хлапчука стаяў у ваколіцах вёскі Бакшты Іўеўскага раёна, сярод балот, а ён сам працаваў на партызанскай кухні. Партызанскае жыццё ішло сваёй чарадой. Былі акцыі, „выдазкі“, барацьба. Былі і хвіліны радасці, вяселля. Адной з рысаў партызанскага жыцця была багатая культурная дзейнасць. Людзі спявалі, чыталі, тварылі, вучыліся, арганізавалі вечарыны. Л. Станкевіч помніць... быў год 1943 і праходзіў мастацкі вечар. Вакол шумеў лес. Адна з дзяўчат, Лена звалася, чытала верш М. Ісакоўскага „На позицию девушка“. Усім, дзяўчатам асабліва, верш вельмі спадабаўся. Таксама і 15-гадоваму Люцыяну. На памяць яму ўсплыла старая мелодыя беларускай песні, пачутая ад бабулі ў дзяцінстве ў вёсцы Дуброва, недалёка ад Аляхновіч, цяпер Мінская вобласць. Яго бацька да вайны служыў там мярнічым. А тая старая песня пачыналася са слоў: „Мая доля няшчасная...“ „Мелодыя гэтая, — расказвае Люцыян, — паслужыла трамплінам, дала штуршок, каб на словы верша Ісакоўскага напісаць песню. У атрадзе быў акардэон, а асновы музыкі малады Люцыян вывучыў яшчэ да вайны ў музычнай школе ў Вільні. Цяпер ён узяў акардэон і пачаў складаць першыя акорды песні, вядомай пад загалоўкам „Агеньчык“, якая потым самім Л. Станкевічам і ананімнымі выканаўцамі спрошчвалася, зменьвалася і здабывала штораз большую папулярнасць. Песню гэтую і мы ў 50-ыя гады ў школе спявалі, лічачы яе мелодыю народнай. Можна сказаць, ненамнога і памыляліся. Не ведалі толькі, што ў аснову яе 15-гадовы кампазітар палажыў беларускую народную мелодыю. Як жа цікава родзяцца песні.

Песню вельмі хутка падхапілі ўсе ў атрадзе. Асабліва дзяўчаты націскалі на маладога кампазітара, каб пісаў новыя песні.

Былі ў атрадзе свае паэты. Вось успамінае Л. Станкевіч яшчэ адну песню, якую ён напісаў на словы адной партызанскай паэтэсы. Яе першыя словы такія: „І паляцела б у ту старонку, дзе мой мілы сном моцным спіць“. Песня была напісана ў вясковым стылі.

Наш госць расказвае, што праз нейкі час пасля вайны ён паехаў туды ў даўнейшыя партызанскія вёскі — Юрацішкі, Лойбішкі, Бакшты, шукаў тых, хто можа помніць тыя песні. Са старэйшых нікога ў жывых не застаў, а „дзяўчаты павыходзілі замуж і раз'ехаліся па свеце, хто ў Мінск, хто ў Расію, хто ў Польшчу“.



*Люцыян Станкевіч, ваенны пенсіянер, нястомны прапагандыст музыкі.*

Госць прасіў: „Напішыце аб гэтым, можа хто дзе прачытае і ўспомніць, няхай тады напіша вам у „Ніву“. Калі ласка, просім!

Мастацкую самадзейнасць у атрадзе больш развівалі дзяўчаты. Дзяўчаты пісалі вершы-песні, да якіх Л. Станкевіч складаў мелодыі.

— А раскажыце яшчэ пра вашу „Лясную гімназію“, пра якую вы ўспомнілі мне раней.

— Арганізавалі навучанне ў атрадзе. Нехта адзін смехам кінуў назву „Лясная гімназія“ і так прынялося. А школа гэта была з поўнай праграмай навучання. У ёй вучыліся і партызаны, і з вёсак прыходзілі. Хоць і ў лясных умовах, а вучылі добра. Усе вучні „Лясной гімназіі“ пасля вайны прыступілі да дзяржаўных экзаменаў па праграме сямікласнай школы і ўсе паспяхова здалі гэтыя экзамены без ніякіх ільгот. Вучобу ў партызанскай „Лясной гімназіі“ пачыналі часта людзі ўрогуле непісьменныя. Было ў нас дзве групы вучняў: старэйшая — то дзеці, а малодшая, якая пачынала навучанне ад буквара — то старыя людзі. Дырэктарам быў Грышкевіч, імя здаецца, Генрык. Я помню, ён паказаў нам „ў“ і сказаў: „Беларускую мову як чуеш, так гаворыш“. Многа вершаў мы вучыліся. Я дагэтуль помню „Вучыся, нябожа, — вучэнне паможа“ Янкі Купалы. З выкладчыкаў помню найбольш Грышкевіча, які акрамя беларускай мовы вёў у нас фізіку, матэматыку. Была яшчэ жанчына ў акулярах, Новікава. Вяла біялогію, гісторыю.

— Колькі ж вы песень напісалі? Назавіце некаторыя.

— Агулам будзе больш ста песень, напісаных па-руску, па-беларуску і па-польску. Палова з іх — ваенныя, салдацкія, маршы. Песень салдацкіх заўсёды мала і іх ад мяне дамагаліся. Вось некаторыя: „Крылатая пехота“, „Родная армия“, „Отцы наши, слушайте“, „Кронштадт“, „Калининградский вальс“, „Марш для моряков“... Многа ваенных песень я пісаў на словы маладога паэта Уладзіміра Матвеева. Многа пісаў і лірычных песень.

— Вы пасля вайны прадаўжалі музычную адукацыю?

— Так. У Вільні закончыў сярэднюю музычную адукацыю, а ў гадах 1953-58 вучыўся ў Музычным інстытуце імя сясцёр Гнесіных у Маскве, дзе закончыў аддзяленні фартэпіяна і кампазітарскае. Многім удзячны слаўнаму кампазітару Вано Мурадэлі. Ён, калі пазнаёміўся з маімі песнямі, сказаў, каб я больш працаваў над мелодыяй. Ён паказаў мне, як пішуцца песні, оперы.

Цяпер Люцыян Станкевіч вядзе клас фартэпіяна ў сярэдняй музычнай школе ў Седльцах. Яго запрашалі на працу ў Варшаве, але ён выбраў усходні раён краіны. У Беластоку мае знаёмых і сяброў. Таксама навязаў кантакт з Беластоцкай філармоніяй, дзе хор будзе спяваць яго лірычныя песні.

**Вера Валкавыцкая**

# „У гэтых карцінах ёсць жыццё. Ведаю, што хочуць сказаць сосны...”



Карціны Н. Шчаснай былі выстаўлены ў гмаху Ваяводскага камітэта партыі.

(Працяг са стар. 1)

вапіс, яе зацікаўленні ў галіне мастацтва ішлі намнога далей. Шкло, вітражы, графіка, кніжная графіка, — на ўсе гэтыя праявы мастацтва не шкадавала свайго таленту маладая Нінель.

У Беластоку Н. Шчасная паказала толькі невялікую частку экспазіцыі, прысвечанай 30-годдзю яе творчасці. Поўнасцю выстаўка экспанавалася ў снежні мінулага года ў Познані, а па дарозе дахаты мастачка са сваімі працамі заехала ў Беласток.

Каля сямідзесяці карцін было выстаўлена ў гмаху ВК ПАРП, а частка карцін і мастацкае шкло былі паказаны ў Бюро мастацкіх выставак і ў галерэі „Польскае мастацтва“.

Што беластаччанам у Шчаснай спадабалася найбольш? Можна з упэўненасцю сказаць, што перш за ўсё — пейзажы, а сярод пейзажаў — палатно „Адвечнае“ з тымі старымі соснамі, якія аб нечым хочуць сказаць, шэпчуцца між сабою, успамінаюць мінулыя дні. Шэпчуцца і так будуць шаптацца яшчэ доўгія гады. Заўсёды! І кожны прыстане каля іх і ўслухаецца. І пачуе, што гаварыць гэтыя дрэвы, якія бачылі не адно на сваім вяку... І заўважыць за няўлоўнай імглою тое, аб чым далікатнымі мазкамі свайго пэндзля намякае аўтарка.

Спосаб яе малявання спрыяе паўставанню паэтычнага настрою. Людзі і прадметы ў яе часта не маюць контураў, яны расплываюцца і знікаюць, каб неспадзявана з усёй моцай паявіцца ізноў. Мастачка ўмела кладзе колер на колер, і бывае так, што, каб атрымаць задуманы эфект, які дагэтуль жыў толькі ў яе ўяўленні, яна вымушана класці да сарака пластоў фарбы. Часамі праз гэтыя пласты фарбы прабіваюцца промні святла, як бы рассоўваючы гэтую цяжкую праслойку і ўсё гэта надае карцінам Н. Шчаснай яшчэ большай таямнічасці, далікатнасці: каб не спужаць прыроды, каб толькі магчы дакрануцца і расказаць пра яе... „Мы ачараваныя Вашым мастацтвам, мастацтвам з пагранічча казкі, сонных мрояў, ідэальнага райскага свету. Нас захапляе Ваша мастацтва элегантнай, станаванай экспрэсіяй, багаццем і далікатнасцю колераў, культурай выказвання. Вельмі яно паэтычнае, настраёвае, рассветленае, дасканалае сваім майстэрствам. Праз яго можна адчуць уражлівую душу мастачкі. Дзякуем“, — узрушана напісалі вучні Мастацкага ліцэя ў Супраслі.

А Ганна Шчэпанкоўская з Беластока канстатавала: „Ваша мастацтва гэта свет маіх мараў! Так хацелася б малюваць! І так хацелася б хаця адну з Вашых карцін мець у сваёй хаце. Можа „Аўтапартрэт“... „Матыль“? „Гуканне вясны“? „Адвечнае“? Але гэта толькі мары! Я гаварыла з Вамі на вернісажы ў чацвер. Мы разам елі яблыкі, былі яны смачныя! Памятаеце? Запрашаю Вас да сябе. У мяне таксама ёсць карціны“, — і адрас.

З пейзажаў яшчэ надта спадабалася гледачам „Бацькава сяло“, а яшчэ больш бадай — зімовыя пейзажы, асабліва маляваныя на бліскучым, серабрыстым шкловалакне. Сярод іх ёсць невялікая карціна, якая называецца „Шчаслівая самотнасць“. Здавалася б, парадокс, хто ж можа быць шчаслівы з прычыны самотнасці?! Але ж не! Гэтая шчаслівая — адзінокая сасна, якая засталася нязрубленай. Усе іншыя — ужо зрэзаны, ляжаць у кучках у выглядзе бярвенняў. У старой сасны тліцца апошняя надзея — малюсенькая сасонка, якая, ледзь заўважальная, прабілася праз снег...

Нягледзячы на нязвыклую паэтычнасць, карціны Нінель Шчаснай маюць глыбокі, патрыятычны змест. Вось палатно „Дахаты“. Так, буслы прылятаюць дахаты, хоць бедна тут і не

## НОВЫЯ КРАМЫ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

**У Бельскай гміне многа будуюць. Перш за ўсё прадуктовыя і прамысловыя крамы. У студзені бягучага года аддалі ў карыстанне прасторную краму ў вёсцы Кнаразы. З гэтай мэтай адрамантавалі пустуючы будынак былой школы, які знаходзіцца якраз пасярэдзіне спомненай вёскі.**

**У папярэднія гады пераказалі да ўжытку крамы ў Грыневічах-Вялікіх, Плюцічах і Налогах. У гэтых вёсках на крамы былі прадназначаны святліцы, у якіх не адбываліся культурныя мерапрыемствы і яны — так ужо склалася — часценька былі пад замком.**

**Сёлета — дзякуючы вялікім намаганням вяскоўцаў — аддадуць у эксплуатацыю краму ў Петшыкове. (яц)**

## ПАЛЯЎНІЧЫХ БОЛЬШ, ЧЫМ ДЗІЧЫНЫ

Белавежскую пушчу называюць раем для паляўнічых. Ці так сапраўды ёсць? Спрабуйма бліжэй прыгледзецца белавежскай паляўнічай гаспадарцы.

Прынцыпы вядзення лясной гаспадаркі ў Белавежскай пушчы, якія былі прынятыя ў 1975 г., залічваюць паляўніцтва да адной з важнейшых галінаў. Яно не можа ўваходзіць у калізію з іншымі дзялянкамі гаспадаркі. Гэта — на паперы, а на практыцы?

Цэлая польская частка пушчы ад 1952 г. вылучаецца з арэнды, гэта значыць, што яе не могуць узяць у арэнду паляўнічыя гурткі. Нядаўна былі спробы адступіць ад гэтага прынцыпу, аднак да „перавароту“ не дайшло. Пушча, разам з прылегласцямі, раздзяляецца на 9 паляўнічых акругаў — па 3 акругі ў кожным пушчанскім надлясніцтве, г.зн. у Белавежы, Гайнаўцы і Броўску. Усе акругі займаюць паверхню 62 тыс. гектараў, з чаго лесу 51 тыс. га. Паляўнічую адміністрацыю састаўляе ўсяго 8 чалавек! У гэтым месцы хтосьці можа засмяяцца: гэта ж лік крайне малы! Скажу яшчэ, што ў апошні час надлясніцтвы атрымалі „зверху“ забарону прымаць новых егераў. Інакш кажучы, егер, які, напрыклад, адыдзе на пенсію, „забярэ“ і сваю штатную адзінку. Пры такім падыходзе да справы, праз некалькі гадоў паляўнічая адміністрацыя зусім перастане існаваць!

Хто ж тады ў пушчы палюе, калі звычайнаму паляўнічаму гэта забаронена? Перш за ўсё паляўнічыя замежныя, значыць — „дэвізоўцы“, як іх папулярна называем. У большасці — з ФРГ. Апрача іх — людзі, займаючыя ў нашай дзяржаве высокія ці сярэдне высокія пасады, нярэдка са сваімі сябрамі ці госцьмі. У апошні час пушчу „наведваюць“ уладальнікі рознага роду паланійных суполак, якія толькі сабе вядомымі спосабамі здабываюць у Міністэрстве ў Варшаве дазволы на адстрэл для сваіх замежных спонсараў ці каапэрантаў. Нярэдка прыязджаюць цэлай гурбой. Нават не паведамляюць мясцовай адміністрацыі, калі, дзе і на што будуць паляваць. Нярэдка ад'язджаюць непрыкметна, не заўляючы аб выніку палявання. Гэта найгоршы від паляўнічага — так лічаць прадстаўнікі тутэйшай паляўнічай адміністрацыі. Час ад часу атрымае дазвол на адстрэл нейкай штукі дзічыны ў „дэвізовых акругах“ і звычайны паляўнічы, з мясцовых.

На што палююць у пушчы? Перш за ўсё на аленяў, дзікаў, сарнаў. Менш на ласёў, а ўжо зусім рэдка на рысяў і ваўкоў. За гады 1979-1988 (да вясны) застрэлена ў Белавежскай пушчы 3451 штука аленяў, 3412 дзікаў, 1466 сарнаў, 81 штука ласёў, 8 ваўкоў і 3 рысі. Больш-менш у год забіваюць 934 штукі г.зв. буйнай дзічыны. Гэта многа ці мала?

Лік дзічыны, якую можна адстрэліць, абумоўлены згодна з прынцыпамі вядзення правільнай гаспадаркі — ёмістасцю па-

# Зорка

## Старонка для дзяцей




Пяцікласнікі з Трасцянкі са сваёй настаўніцай Галенай Тапалянскай. Фота Я. Чэрнякевіч.

### НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

**Георгій Марчук**
**Вершы У. Някляева**




**Карціна шостая**
**Заканчэнне.**

Адна Стрэлка. Добры дзень, дзеці. У эфіры перадача „Школа юнага пешахода". На пытанні Светафора адказваюць хлопчык Ясь і яго сястра Яніна.

Светафор. Дзе ходзяць пешаходы?

Ясь. Пешаходы ходзяць па тратуарах.

Яніна. Прытрымліваючыся правага боку.

Светафор. Каб перайсці вуліцу, што перш за ўсё трэба шукаць?

Ясь. Месца пераходу.

Светафор. Правільна. Стрэлкі, пакажыце ўсім гэты знак.

*Знакі-Стрэлкі выносяць знак „Пераход для пешаходаў".*

Светафор. Як трэба абыходзіць трамвай?

Яніна. Абыходзіць толькі спераду.

Ясь. Глядзіце! Цуда! Бярозка ажыла.

Яніна. Яна адрадзілася і ўжо выпусціла маладыя лісцікі.

Бярозка. Дзякую вам, Ясь і Яніна. Я зноў жыву.

Светафор. Сябры мае, каралева Аварыя слабее. Мы пераможам. Працягваем далей. Калі нельга пераходзіць вуліцу?

Ясь. Нельга пераходзіць вуліцу перад блізка ідучым транспартам.

Светафор. Правільна.

Трагічная Сітуацыя. Што гэта? Ой... Мяне няма... я знікаю... сохну... Забараніце ім адказваць!

Крумкач. У мяне нешта вось тут баліць. *(Паказвае на горла).* Ой, што з маім цудоўным голасам? Кар... Кар... Я болей не крумкач.

Няшчасны Выпадак. Мне нешта дрэнна робіцца. Спяваць хочацца. Любіць дзяцей хочацца.

Ясь. Яны знікаюць, ваша свяцільства.

Светафор. Дзякуючы вам. Ад вашых ведаў яны знікнуць назаўсёды. Давайце далей. Ці можна перабягаць вуліцу перад блізка ідучым транспартам?

Ясь і Яніна *(разам).* Нельга.

Няшчасны Выпадак. Маё вока... Я зноў бачу. Мой пратэз — дзе ён? Гэта ж мая рука. Я ўвесь зялёны, што гэта? Мая ўсмешка.

Светафор. Усё вельмі проста. Ты з Няшчаснага Выпадку ператварыўся ў Шчаслівы Выпадак. Цяпер весяліце і радуйце людзей. Засталася яшчэ каралева. Як трэба пераходзіць вуліцу?

Ясь. Перш чым перайсці вуліцу, трэба паглядзець у левы бок.

Яніна. Калі праезджая частка вуліцы свабодная, — можна ісці.

Ясь. Калі дойдзеш да сярэдзіны вуліцы — паглядзі ў правы бок.

Яніна. Калі праезджая частка вуліцы свабодная — пераходзь.

Аварыя. Ах вы, баязліўцы! Нягоднікі! Усе пакінулі сваю каралеву. Толькі мяне, Светафор, голымі рукамі не возьмеш.

*Музыка.*

*Аварыя ўцякае.*

Ясь. Трымайце яе! Трымайце! Яна ўцякае!

Светафор. Позна.

Яніна. Значыць, Аварыя засталася жыць?

Светафор. Пакуль што так. Аднак яна не мае сіл сапсаваць ваша свята. Я ўпэўнены, усе дзеці будуць на вуліцах паводзіць сябе так, як належыць у прыгожай краіне дарожных знакаў.

*Музыка.*

*Раптам чуваць сігнал „хуткай дапамогі".*

Ясь. Што гэта магло здарыцца?

Яніна. Гэта сігнал каралевы Аварыі. Яна любіць такія гукі.

Знакі-Стрэлкі. Нешта здарылася! Нешта здарылася!

Светафор. Нехта з дзяцей, якія знаходзяцца ў гэтай зале, парушыў сёння правілы для пешаходаў, і каралева Аварыя, дазнаўшыся пра гэта, даслала нам сваё прывітанне.

Ясь. Выходзіць, яна зноў можа ператварыцца з каршуна ў Аварыю?

Светафор. На жаль, можа. Але гэта залежыць ад нас з вамі. Помніце ўсе правілы, ніколі не развітвайцеся з кнігай законаў Краіны дарожных знакаў, ніколі не парушайце гэтых правілаў. І тады праклятая каралева сканае. А я заўсёды буду з радасцю вітаць вас зялёным святлом.

*Музыка.*

*Ясь і Яніна ідуць у залу і раздаюць дзецям кніжкі аб правілах дарожнага руху.*

*Усе развітваюцца і выходзяць.*

**Заслона.**

---

## Для самых маленькіх...

**Аляксандр Ягадкін**

## БАБУЛІНЫ АКУЛЯРЫ

Прачнуўся ранічкай Сашка і адразу пачаў капрызіць. Ён яшчэ і вачэй як след не паспеў адкрыць, а ўжо пачаў марудзіць. Мама спытала:

— Ты чаго расплакаўся, як дзяўчынка? Проста як царэўна Несмяяна!

— Адыдзі, — сказаў Сашка. — Я цябе не люблю.

— О, і слёзы ў тры ручаіны! Ты, мабыць, не Сашка, а Машка?

— Кепская ты, — буркнуў Сашка, выціраючы кулаком вочы. — Пайду ад цябе.

Устаў Сашка і пайшоў да бабулі. Яна яго пацкадавала, але Сашка сказаў ёй, што і яна кепская. Здзівілася бабуля, хацела было злавіць Сашку, каб пацалаваць яго, але ён выкруціўся.

Дзядуля яшчэ спаў. Побач на століку ляжалі акуляры і газета. Схапіў Сашка газету і парваў, каб дзядуля таксама прачнуўся і ўбачыў, які ён капрызны. А акуляры ўпалі і пабіліся.

— Гэта ён, мабыць, проста галодны, — падумала бабуля. — Трэба хлопчыка накарміць.

А дзядуля пачаў сварыцца на Сашку:

— Бач ты які! Яшчэ і акуляры пабіў! Трэба яго не карміць, а пакараць.

— Усе кепскія! — сказаў Сашка. — Пайду ад вас.

— Вось глянь, — сказала бабуля, — твой Барбос з цябе смяецца.

— Кепскі Барбос, — сказаў Сашка.

Тут прыйшла мама. Пагледзела яна на пабітыя акуляры і паківала галавой:

— Здаецца, я ведаю, у чым справа. Яму дрэнны сон прысніўся. І пакуль Сашка яго глядзеў, у яго вочы папсаваліся.

— І што цяпер рабіць? — спалохалася бабуля.

— Не трэба мяне лячыць, — сказаў Сашка. — Усе кепскія.

— Вось бачыш, — сказала мама, — яго вочы толькі кепскае бачаць. Давай руку, пойдзем лячыцца.

— Як лячыцца? Таблеткамі?

— Не. Бабулінымі акулярамі. Вунь яны, на століку ляжаць.

— Яны лячэбныя ці як? — спытаў Сашка.

— Не, яны сонечныя, — адказала мама. — Бачыш, якія яны цёмныя... Пакуль глядзіш праз іх — толькі добрае бачыш. А ўсё кепскае ў цемры нікне.

Узяла мама акуляры і начапіла іх Сашку.

— Глянь, — сказала яна, — вунь Барбос на канапе сядзіць. Як вы ўчора з ім добра гулялі! Ён вясёлы, такі добры... Прачнуўся і думаў, што ты з ім зноў будзеш гуляць, скакаць і весяліцца. А ты яго кепскім назваў. Думаеш, яму не крыўдна?

(Працяг на стар. 10)

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

# МАЛЮЮЦЬ ДЗЕЦІ

*Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ* *Словы С. ЗАКОННІКАВА*



*Асфальт ад промняў залатых рабы,*
*На ім стаю — знаёмы цуд прыкмеціў:*
*Крамяныя, як першыя грыбы,*
*Шчыруюць з мелам каляровым дзеці.*

*Няма пытання „Быць або не быць!“*
*І лёгка дыхаецца ўсёй планеце,*
*Пакуль блакіт калышуць галубы,*
*Малююць сонца на асфальце дзеці.*

*Дзе ёсць яшчэ такія мастакі,*
*І хто да іх вышынь з дарослых вырс*
*Ікнецца ў свет шырокі з-пад рукі*
*Фантазіі бязмежнай смелы вырай.*



# НІЎКА





— *Якое табе «горка»? Ужо два дні, як вяселле закончылася!*

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

Той, хто шукае сабе сяброў, годны таго, каб іх знайсці: той у каго няма аніводнага сябра, ніколі не хацеў іх мець.

*Г. Лесінг, нямецкі драматург, публіцыст, дэмакрат, тэарэтык мастацтва (1729-1781)*



**Калі б я перамог сябе, што гэта — перамога ці паражэнне?**

## ВОСЬ ЯКАЯ У МЯНЕ ЦЕШЧА

Некалі на вясковых вяселлях спявалі жартоўную, але і крыху крыўдную для ўсіх цешчаў песню: „Зяць на цешчы капусту вазіў“...

І калі ў свой час і сапраўды магло быць так, што які-небудзь зяць вазіў на цешчы капусту, то ўжо, выбачайце, на маёй цешчы капусту не павозіш.

Кажуць, што да дваццаці год хлопец жэніцца сам, да дваццаці пяці — яго жэняць людзі, але калі пераваліла за дваццаць пяць, то хлопца ўжо і сам д'ябал не ажэніць. Штосьці падобнае давялося зведаць і мне. Калі мне мінула трыццаць, усе мае сваякі і знаёмыя перасталі мяне жаніць і махнулі на мяне рукой: маўляў, столькі з яго, што з казла малака...

Але я ажаніўся. Да мяне прыйшло сапраўднае каханне ў выглядзе маленькай дзяўчынкі Элачкі, якая толькі што закончыла інстытут і прыехала працаваць па суседні завод. Хаця паявілася ў мяне лысіна, Элачцы я падабаўся. Але тут на маім шляху да такога жаданага і, здавалася б, зусім блізкага ўжо сямейнага шчасця стала раптам цешча. Першае пісьмо Элачцы, якое датычыла мяне, мела, напрыклад, такія красамоўныя словы: „Ты пішаш, што ён (г.зн. я) добры. А чаму ж ён не ажаніўся дагэтуль, калі такі добры? Ты пішаш, што ён разумны. Дык чаму ж ён не скончыў інстытут? Глядзі, дачка! Глядзі, бо твой Юрась напэўна і выпіць яшчэ любіць...

Я ніколі не бачыў будучай цешчы. Уяўленне маё малявала мне яе старой, сварлівай бабай, з якою сам чорт не зладзіць. Элачка кахала мяне па-сапраўднаму, але гаварыла: — Насуперак волі мамы я не пайду.

— Дык на якіх умовах твая маці згодзіцца на шлюб?

— А ты не зразумеў? Паступіш вучыцца, тады і згода будзе.

І калі аднойчы да Элы прыехала ў госці Антаніна Якаўлеўна (так завуць маю цешчу), Эла запрасіла мяне да сябе, каб пазнаёміць нас, я вачам сваім не паверыў. Па-першае, цешча зусім не была старой: ніводнага сівога воласу, ніводнае зморшчыны, смех залівісты, як і ў Элы. Па-другое, гаварыла яна ласкава і без усякіх шпілек.

— Ды вось ты які, Юраська, — сустрэла яна мяне. — Хлопец ладны, прыгожы. Нездарма ж Эла надакучыла мне. У кожным пісьме адно: дазволь ды дазволь замуж. Але вось што я табе скажу, Юрась: умовы мае ўсё тыя ж. Паступіш у інстытут, тады жэнішся.

— Памяркуй сам, — працягвала яна разважна. — У мяне трое дзяцей. Вадзім — афіцэр, акадэмію закончыў. А ён твой равеснік. Зіна — матэматык, а яе муж — інжынер. Эла таксама інжынер... І раптам у нашай сям'і паявіцца тэхнік. Ды ў тваім узросце толькі і вучыцца!...

Што мне заставалася адказаць ёй! Я быў абяззброены і як кажуць, упершыню капітуляваў перад цешчай. Я даў згоду.

Вяселле наша было, калі мяне залічылі студэнтам першага курса вячэрняга аддзялення. А цяпер у нас з Элай ёсць ужо дачка Тонечка (у гонар маёй цешчы назвалі). Што ж датычыць мяне самога, дык я цяпер вучуся на другім курсе інстытута... Жывём мы вельмі дружна, і Антаніна Якаўлеўна, якую я называю мамаю, — часты наш госць. Яна, як толькі прыязджае да нас, перш за ўсё патрабуе маю залікавую кніжку. Чырванець мне не даводзіцца. Ацэнкі ў кніжцы добрыя. І цешча на сёмым небе.

— У людзі цябе выведу, — кажа, — чалавекам будзеш!

Во, якая ў мяне цешча! Не якая-небудзь, што можна капусту на ёй вазіць. А ого!.. Перадавы чалавек. Ідзе ў нагу з жыццём... А ўвогуле, у маёй сям'і поўны матрыярхат...

**Харытон Шпілька**

Стогадовы чалавек з Дагестана захварэў. Суседка (ёй было дзевяноста) зайшла яго праведаць. Хворы абурыўся:

— Як табе не сорамна? Я цэлы тыдзень прыкованы да пасцелі, а цябе ўсё няма ды няма. А яшчэ суседкай называешся!

— Даўно я зайшла б — баялася, што плёткі пойдуць па аўле: жанчына бегае да адзінокага мужчыны!..

### ФРАЗЫ

Адны сцвярджаюць, што смех — гэта здароўе. Другія гавораць: „Можна памерці ад смеху“. Каму верыць?

*

Пры цяперашніх адносінах да прыроды хутка нават рэха памрэ.

### АБ ПЛЮРАЛІЗМЕ

Плюралізм няхай будзе,
Ёсць розныя ж людзі,
Але, па-мойму, лепш
за ўсё
Быў бы для нас
(плю)-рэалізм.
Калі б быў ён у нас
раней,
Не трэба было б
запрашаць
Да „круглага стала“
Сённяшніх гасцей.

**Рышард Бутайла**

Дзеці вучацца гаварыць, дарослыя — маўчаць.

*

Адзін стары недахоп лепшы ад двух новых.

*

Радасць каштаваць не цяжка, ляпей у горы моцным быць.

*

У хаце славутага кампазітара было тры залатых медалі. Але ўсе ў сабакі.

*

Паэтаў пасля шасцідзесяці гадоў і старэйшых, якія пішуць на любоўныя тэмы, трэба залічваць да секцыі мемуарыстаў.

*

Мастацтва спрэчак заключаецца ў тым, каб не даць другому выказацца.




**Брат можа не быць сябрам, але сябра — заўсёды брат.**